












АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

5 красавіка 2000 года
Цана 75 рублёў

№ 14 (2676)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


СЛОВА ДА ЧЫТАЧОЎ

# НАМ УЖО — 45!

## НАПЕРАДЗЕ... 100-годдзе

У адрозненне ад людзей, якіх засмучае набліжэнне сталасці, газеты і часопісы пра свой паважаны ўзрост гавораць услых і гучна. Бо маюць на тое рацыю. Не кожнае выданне вытрымлівае выпрабаванне часам. Калі ж здолее застацца разам са сваімі чытачамі на працягу доўгіх гадоў, не выпадзе з грамадскай і інфармацыйнай плыні, — заслугоўвае права гэтым ганарыцца. Вось і "Голасу Радзімы" — сорак пяць! Ужо змянілася некалькі пакаленняў чытачоў, складаў рэдакцыі, іншым зрабіўся выгляд самой газеты, але засталася ўпэўненасць: "Голас Радзімы" ведаюць, чытаюць і чакаюць. Чакаюць па ўсім свеце, куды толькі закінуў лёс беларусаў: у Аўстраліі і Аргенціне, Польшчы і ЗША, Францыі, Канадзе, Бельгіі, Германіі, Англіі... А зараз і ў Расіі, Украіне, Казахстане, Малдове, у Прыбалтыцы.

Штотыднёвік заўсёды імкнуўся пераадольваць адлегласці, каб яднаць людзей. Рубрыкі "Нам пішуць землякі", "На зямлі бацькоў", а ў апошні час "Зваротная сувязь" змяшчаліся ў кожным нумары. Прыязджалі замежныя беларусы на радзіму даволі часта: суайчыннікі сталага веку — пабачыцца са сваякамі, наведаць родныя вёскі, бацькоўскія хаты, маладзейшых вабіла магчымасць больш даведацца пра культуру Беларусі, традыцыі: яны вучыліся на разнастайных мастацкіх курсах, якія амаль штогод ладзіліся для іх таварыствам "Радзіма"; дзеці суайчыннікаў запрашаліся ў нашы летнікі. Зразумела, пасля гэтага эмоцыі — праз край. А значыць — пісьмы, успаміны, і ўсе яны на старонках газеты. Хаця сёння становішча шмат у чым змянілася, "Голас Радзімы", як і раней, аб'ядноўвае тых замежных землякоў, хто не забываецца на сваю радзіму, каму дарагая памяць продкаў.

Мы робім не толькі газету пра Беларусь, але агульную беларускую газету. Практычна гэта адзінае айчыннае міжнароднае выданне. Таму нам так цікава выявіць беларускі погляд на сусветна значныя падзеі, праблемы. Час ідзе, але беларусаў, якім наканавана жыць за межамі Айчыны, не становіцца менш. Розныя абставіны, палітычныя катаклізмы сучаснасці зноў раскідваюць беларусаў па ўсім свеце.

Пішыце, тэлефануйце, расказвайце пра свае радасці і праблемы, райце, як зрабіць нашу агульную газету больш цікавай і патрэбнай вам. Мы ж, са свайго боку, намагаемся, каб "Голас Радзімы" годна нёс беларускае слова, паведамляў пра дзяржаву Беларусь, а таму запрашаем да выступленняў на старонках штотыднёвіка высокакваліфікаваных і арыгінальных аўтараў, а таксама адказных асоб, якія валодаюць найбольш поўнай і дакладнай інфармацыяй пра жыццё краіны.

Адметная асаблівасць: многія творы замежных сусветна вядомых творцаў упершыню прагучалі па-беларуску менавіта ў "Голасе Радзімы". А ўжо пра пастаянную пільную ўвагу газеты да дзеячаў беларускай культуры, мастацтва і літаратуры няма чаго і казаць! "Голас Радзімы" друкаваў творы Зоські Верас, Уладзіміра Караткевіча, Наталлі Арсенневай, Васіля Быкава, Вячаслава Адамчыка, Уладзіміра Арлова, Ніла Гілевіча, Янкі Брыля, Сяргея Грахоўскага, Рыгора Барадуліна... Ды ці ўсіх пералічыш!

Прызнаемся: новы "Голас Радзімы" імкнецца не згубіць давер слынных аўтараў. І таму мы рады і ўдзячны, што менавіта нашай газеце даслаў у юбілейны нумар свой новы твор Васіль Быкаў, што сёння мы ўпершыню можам змясціць невядомыя раней успаміны пра Уладзіміра Караткевіча. А яшчэ для нас важна, што ў "Голасе Радзімы" ўсё часцей з'яўляецца рубрыка "Дэбют". Вось і ў гэты нумар беларуская дзяўчынка з Латвіі Марына Куцына даслала нам сваю, магчыма, першую казку.

Традыцыйна нашы аўтары — навукоўцы-гісторыкі, беларусісты з сусветна вядомымі імёнамі — расказваюць у сваіх артыкулах пра малавядомыя, але выбітныя постаці беларускай мінуўшчыны, пра падзеі, якія робяць гонар Беларусі і беларусам. Мы пераконваемся самі, а потым імкнёмся пераканаць нашых чытачоў, што ім, падобна рускай, украінскай, літоўскай дыяспарам, таксама ёсць чым ганарыцца. Дарэчы, гэты накірунак лічым адным з найгалоўных.

А колькі выдатных замалёвак, прысвечаных жыццю глыбінкі, беларускай прыродзе, яе флоры і фауне, убачыла свет за гэтыя гады! Думалася, калі чалавек не ў стане прыехаць на радзіму, трэба яму даць магчымасць хаця б завочна павандраваць па дарагіх сэрцу мясцінах.

Сорак пяць год. Амаль паўвека ўзаемаадносін: газета — чытач. За гэты час усяго хапіла: радасцей-перамог і няўдач, непаразуменняў, часам нават крыўд. Былі моманты ўздыму, а здаралася — крылы апускаліся... Не, не ў газеты, у людзей... А газета, як і раней, нягледзячы ні на якія перашкоды, ляціць. Ляціць праз тысячы кіламетраў, праз моры, акіяны, яна спяшаецца да адданых чытачоў, да свайго пяцідзесяцігоддзя... стагоддзя... А там паглядзім.

## «БОЖА, АДВЯДЗІ АД БЕЛАРУСІ ЗДРАДУ, ВЕРАЛОМСТВА І ВАЙНУ»




Гэтыя паэтычныя радкі, напісаныя Генадзем Бураўкіным, сталі лейтматывам творчай сустрэчы паэта з вучнямі 2-й мінскай школы. Паміж вядомым паэтам і маладымі людзьмі адбыўся дыялог, галоўнай тэмай якога стала будучыня Беларусі, а значыць, і будучыня цяперашніх семнаццацігадовых. НА ЗДЫМКУ: выступае Генадзь БУРАЎКІН.

Фота БелТА.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

Кардыялагічныя прэпараты на 60 тысяч долараў ЗША перададзены раёнам, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, аўстрыйскай фірмай "Нікамед". Лекі атрымалі НДІ радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі, першая клінічная бальніца Мінска, медыцынскія ўстановы Брэсцкай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей.

БелТА.



МАНІТОРЫНГ

## ЯК СВЕДЧЫЦЬ «НОВАК»

● Валянціна МЕНШЫКАВА. БелТА.

"Беларусь і свет" — так назвалі супрацоўнікі лабараторыі аксіяметрычных даследаванняў "Новак" рэпрэзентатыўнае апытанне, якое толькі што закончылася. У сацыялагічных даследаваннях прынялі ўдзел 1 608 жыхароў з самых розных мясцін Беларусі.

На пытанне "Якім чынам Беларусь можа лепш забяспечыць сваю бяспеку?" былі атрыманы вельмі розныя адказы. Але большая колькасць рэспандэнтаў — 46,1 працэнта — лічаць, што самы перспектыўны напрамак бяспекі — стварэнне агульнай абароны з Расіяй. Значная колькасць — 36,6 працэнта грамадзян краіны, якія ўдзельнічалі ў апытанні, — заявіла, што захаванне нейтральнага і бяз'ядзернага статуса краіны, замацаванага ў Канстытуцыі, і ёсць неабходная гарантыя дзяржаўнай бяспекі. Яшчэ 8,2 працэнта рэспандэнтаў лічаць, што ўступленне ў НАТО забяспечыць Беларусі надзейную бяспеку. Прыкладна столькі ж людзей — 8,3 працэнта — не змаглі даць які-небудзь канкрэтны адказ.

Які з варыянтаў знешнепалітычнага курсу нашай краіны найлепшы? І з такім пытаннем звярнуліся да рэспандэнтаў аўтары сацыялагічнага даследавання. Арыентацыі на Расію і Захад адначасова аддалі перавагу 38,8 працэнта апытаных. Далейшай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй аддалі перавагу 37 працэнтаў, а арыентацыю на ўступленне ў Еўрапейскі саюз падтрымалі 15,5 працэнта рэспандэнтаў. Яшчэ 8,7 з іх не знайшлі адказу.

На пытанне "Да якіх краін, на вашу думку, Беларусі трэба звяртацца па фінансавую падтрымку на мадэрнізацыю сваёй эканомікі?" 40,3 працэнта рэспандэнтаў адказалі, што да любой краіны або арганізацыі, якая згодзіцца прадаставіць такую падтрымку, Расію назвалі прыярытэтнай у гэтым напрамку 24,9 працэнта ўдзельнікаў даследаванняў, а 20,3 працэнта з іх упэўнены, што лепш звярнуцца да краін Захаду. Беларусь не мае патрэбы ў фінансавай падтрымцы іншых краін і арганізацый, горда заявілі 8,6 працэнта апытаных.

МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ





**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ярмошын сустрэўся з прадстаўнікамі місіі Міжнароднага валютнага фонду. НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір ЯРМОШЫН вітае старшыню місіі МВФ Марту дэ КАСТЭЛА-БРАНКА; у час сустрэчы.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

ТОЛЬКІ ФАКТ

**Паводле звестак ВА "Беларуснафта", сёлета за два месяцы нафтавікі здабылі 298 198 тон нафты, што складае 102 працэнты да студзеня — лютага 1999 года. Здабыча спадарожнага нафтавага газу склала 41 325 тысяч кубаметраў, або 101,4 працэнта да аналагічнага леташняга перыяду.**

**Паводле ацэнак спецыялістаў аб'яднання, за ўвесь год будзе здабыта каля 1,9 мільёна тон нафты.**

## КОЛЬКІ БАЧАНА-ПЕРАБАЧАНА

З тых самых гадоў, калі ў рэспубліцы толькі пачыналася здабыча "чорнага золата", працуе дызеліст Мазырскай нафтагазаразведвальнай экспедыцыі глыбокага бурэння Анатоль Мельчанка. За гэты час адкрываліся новыя нафтаносныя свідравіны, прыхо- дзілі новыя вучні, не адну падзяку і грамату атрымаў за добрасумленную працу Анатоль Міхайлавіч. Цвёрда ведае чалавек цану сваёй спецыяльнасці: без дызеліста што за буравая?

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



КОРАТКА

**ПАДАРУНАК КАРАЛЕВЕ.** Нядаўна каралева Вялікабрытаніі прыняла беларускага пасла Уладзіміра Счаснага ў сувязі з завяршэннем яго паўнамоцтваў у гэтай дзяржаве. У ходзе аўдыенцыі была падкрэслена важнасць гуманітарнага супрацоўніцтва дзвюх краін па пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Як вядома, Вялікабрытанія аказвае Беларусі немалую дапамогу медыкаментамі і клапоціцца пра чарнобыльскіх дзяцей.

У знак удзячнасці каралеве было ўручана пано, зробленае рукамі мазырскай школьніцы Таццяны Отчык.

**ТУРЫСТЫЧНЫ АБМЕН.** Пры пасрэдніцтве турыстычных фірм у мінулым годзе за межы Беларусі выязджала 934 тысячы 205 грамадзян. Беларусь наведала 75 тысяч 795 замежных турыстаў. Як паведамілі карэспандэнту ФАН у Міністэрстве статыстыкі Беларусі, пераважная колькасць грамадзян краіны — 740 тысяч 530 чалавек выязджала ў Польшчу. Расію ў якасці турыстаў наведала крыху больш за 82 тысячы беларускіх грамадзян, Украіну — амаль 21 тысяча, Чэхію — 18 247, Літву — 17 726, Балгарыю — 14 114, Германію — 11 843, Турцыю — 6 988, Італію — 2 074, Францыю — 1 991, Егіпет — 1 856, Славакію — 1 826, Кіпр — 1 671, Венгрыю — 1 533.

Што датычыцца замежных турыстаў, якія наведалі ў мінулым годзе Беларусь, то тут пальму першынства трымае Польшча. Летась у турыстычных мэтах у Беларусі пабывалі 19 122 палякі, з Расіі нашу краіну наведалі 17 657 турыстаў, з Латвіі — 9 020, з Германіі — 5 354, Ізраіля — 4 724, Вялікабрытаніі — 3 983, Літвы — 3 437, ЗША — 2 223, Кіпра — 1 887, Італіі — 1 812, Украіны — 1 624.

**БЕЛАРУСЬ ПЛАНУЕ ЭКСПАРТАВАЦЬ У ПОЛЬШЧУ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ, ВЫПРАЦАВАНУЮ НА БЯРОЗАЎСКАЙ ГРЭС.** Сумесную пастанову на гэты конт прынялі Савет Міністраў і Нацыянальны банк Беларусі. Найбольшую зацікаўленасць у рэалізацыі гэтага праекта праяўляе кіраўніцтва расійскага акцыянернага таварыства "Газпрам", якому Беларусь завінавацілася за пастаўлены прыродны газ 160 мільёнаў долараў ЗША. Менавіта на пагашэнне запазычанасці за расійскі газ і будзе накіравана частка выручкі, атрыманай ад экспарту дадаткова выпрацаванай электраэнергіі.

**Федэральнае агенцтва навін.**

НАПЯРЭДАДНІ

# IX ЧАКАЕ СІДНЭЙ

У прэс-цэнтры Нацыянальнага алімпійскага камітэта адбылося падвядзенне вынікаў рэспубліканскага конкурсу "Сіднэй-2000". У святочнай атмасферы віцэ-прэзідэнт НАК, трохразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Мядзведзь аб'явіў пераможцаў і ўручыў ім дыпломы і прызы. Лаўрэатамі сталі вучаніца віцебскай сярэдняй школы № 36 Ірына Барысевіч і студэнт Мінскага медвучылішча Васіль Міхейчык.

Ідэя правядзення конкурсу належыць "Алімпійскай салідарнасці" і Аргкамітэту гульняў у Сіднэі. Яны звярнуліся з прапановай у НАК Беларусі вызначыць пятнаццаці-шаснаццацігадовых юнака і дзяўчыну для ўдзелу ў Алімпійскім маладзёжным спартыўным лагеры ў Сіднэі. Каб выявіць шчаслівых, шматлікія спонсары пры падтрымцы газет у верасні 1999 года аб'явілі конкурс, пераможцы якога і павінны былі атрымаць дзве пуцёўкі. На працягу сямі месяцаў з розных куткоў Беларусі ў НАК прыходзілі адказы на пытанні конкурсу. Усяго ў ім прынялі ўдзел 1 264 чалавекі.

Сярод юнакоў безагаворачную перамогу атрымаў Васіль Міхейчык, а сярод дзяўчат — Ірына Барысевіч.

З 12 верасня па 4 кастрычніка 2000 года Васіль і Ірына з аднагодкамі з 199 краін свету будуць знаходзіцца ў Сіднэі. У праграме, акрамя спартыўных баталій, трохдзённая паездка ў сельскагаспадарчую абшчыну штата Нью-Уэльс, затым чатыры дні ў трапічным Квінслэндзе з наведваннем Вялікага бар'ернага рыфу і унікальнага гаю Дэйнтры.

**Павел САМЕЦ.**

НА ЗДЫМКУ: віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта, трохразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ з пераможцамі конкурсу Васілём МІХЕЙЧЫКАМ і Ірынай БАРЫСЕВІЧ.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**




ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

**Круглянскі раён — адзін з нешматлікіх на Магілёўшчыне, дзе і ў крызісныя для эканомікі краіны гады клапатліва захоўваюцца і працягваюць працаваць практычна ўсе сельскія клубы, а таксама Дамы культуры. Кожнае свята на сцэнах маленькіх клубаў і Дамоў культуры гучаць музыка і песні. Святочны настрой пануе і ў Доме культуры вёскі Філатава, калі перад сваімі працавітымі аднавяскоўцамі выступае фальклорны ансамбль "Мілавіца". Вось ужо чацвёрты год запар кіраўніком і творчым натхняльнікам гурта з'яўляецца загадчыца Дома культуры Наталля Шкапцова.**

# НАТАЛЛІНА «МІЛАВІЦА» ЖЫВЕ ПАД КРЫЛАМІ МАРЫ

Кажуць, адмірае на Магілёўшчыне тая вёсачка, што завецца ў песні "дзеравянною, дальнею..." Як ні шкада, але вёсак, якія зеўраюць ваканіцамі пустых дамоў, з кожным годам становіцца ўсё болей. Аднак не кожнай вёсцы суджана згаснуць, калі сюды прыязджаюць людзі неабыякавыя. Яны здольныя адраджаць на сяле не толькі вытворчасць хлеба ды малака, але і нацыянальныя культурныя традыцыі, што не да часу згасаюць.

У калгас імя Някрасава, што на Кругляншчыне, дзе жывуць у асноўным перасяленцы з так званых чарнобыльскіх раёнаў, такія людзі, на шчасце, прыехалі.

Старшыня калгаса Іван Парчэўскі, сам малады па ўзросту і духу, і стаўку ў развіцці адной з самых слаўных гаспадарак раёна зрабіў на моладзь. У яго знаходзяць падтрымку не толькі маладыя механізатары і жывёлаводы, але і людзі, якія жадаюць ажывіць культурнае жыццё на сяле.

Іван Васільевіч — пераканаешы прыхільнік пункту гледжання, што вёсцы суджана знікнуць у бездань небыцця, калі на дзвярах сельскага Дома культуры, быццам на свіране, будзе вісець вялізны замок. Не бачыць тады вёсцы зычных вяселляў ды хрысцін, адны толькі хаўтуры...

Магчыма, так было б і на цэнтральнай калгаснай сядзібе ў вёсцы Філатава, калі б шэсць гадоў таму не вярнулася з горада ў бацькоўскі дом абаяльная дзяўчына Наталля Шкапцова. Паразважаўшы над пакінутай у горадзе марай стаць работнікам у вялікім магазіне, Наталля прыняла прапанову старшыні калгаса і стала загадчыцай у невялікім сельскім Доме культуры. Прапанова, безумоўна, апраўдала выбар, бо сення Наталля Шкапцова з'яўляецца адным з лепшых работнікаў сельскіх устаноў культуры Круглянщчыны. Яна не толькі здольны арганізатар розных культурна-масавых мерапрыемстваў на сельскай клубнай сцэне, але і заслугоўвае ўвагі як удзельніца мастацкай самадзейнасці. Створаны па яе ініцыятыве фальклорны ансамбль "Мілавіца" — не толькі жаданы госць на калгасных "Дажынках" і "Восеньскіх кірмашах". У 1999 годзе калектыў стаў лаўрэатам раённага фестывалю народнай творчасці "Мая Круглянщчына".

Аб'яднала *Наталля ў ансамблі* пераважна маладых настаўнікаў з Філатаўскай сярэдняй школы. Па гэтай прычыне і песенны рэпертуар "Мілавіцы" якасна адрозніваецца ад рэпертуару іншых самадзейных артыстаў. Дзяўчыны спяваюць старадаўнія беларускія песні, цалкам выцягваючы іх з куфэрка даўніны. Дзякуючы актыўнаму пошуку спявачак, загучалі амаль з нябыту народныя песні, якія маюць мясцовую прапіску.



Падчас размовы з самадзейнымі артыстамі з "Мілавіцы" я пацікавіўся іх вясновымі пажаданнямі. Высветлілася, што яны самыя зямныя: знайсці маладому ансамблю больш шырокае кола слухачоў не толькі на Круглянщчыне. Ды яшчэ, безумоўна, не размінуцца ў гэтым годзе са сваімі нарачонымі. Няхай нават прыедуць яны ў вёску з далёкага краю. Вось толькі ў старшыні калгаса на гэты конт свае меркаванне і галаўны боль. Няхай лепш гэтыя ўхажоры будуць з мясцовых хлопцаў, каб ненарокам не расцягнулі па белым свеце пявучых філатаўскіх нявест.

**Юрый БЯСТВІЦКІ.**
**Фота Мікалая ЦІТОВА.**



ЗДАРОЎЕ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ



Споўнілася пяць гадоў з дня адкрыцця аддзялення прамянёвай дыягностыкі клінікі радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне. Аддзяленне абсталявана сучаснымі апаратамі для рэнтгенаўскай і магнітарэзананснай тамаграфіі фірмы "Філіпс", гама-камерай фірмы "Софа медыкал" (Францыя) для даследавання функцыі печані, нырак, сэрца, мозгу. Ультрагукавое аддзяленне аснашчана дыягнастычнымі апаратамі японскіх фірм "Алока", "Ташыба". Магнітарэзанансная тамаграфія дазваляе выконваць складаныя тамаграфічныя даследаванні мозгу, пазваночніка і іншых органаў.

За пяць гадоў праведзена больш за 16 000 даследаванняў такога роду, што дазволіла своечасова выявіць захворванне і аказаць хірургічную, тэрапеўтычную дапамогу цяжкім хворым з розных клінік рэспублікі.

У аддзяленні працуе 46 спецыялістаў. Большасць з іх стажыраваліся ў Германіі, Галандыі, Японіі і ЗША. Яны перадаюць свой вопыт беларускім калегам. Імі апублікавана больш за 26 навуковых прац. Аб'ёмы даследаванняў, што выконваюцца ў аддзяленні прамянёвай дыягностыкі, адпавядаюць аб'ёму даследаванняў, якія выконваюцца ў еўрапейскіх клініках.

НА ЗДЫМКУ: кандыдат медыцынскіх навук Вадзім ПЕТУХОЎ — адзін з самых вопытных спецыялістаў прамянёвай дыягностыкі.

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

# СПАЖЫЎЦА ТРЭБА АБАРАНЯЦЬ

Сёлета ў Беларусі ўпершыню адзначаўся Сусветны дзень правоў спажыўцоў. Заканадаўчая база ў краіне, што рэгулюе асноўныя аспекты гэтай сферы, даволі шырокая: законы *"Аб стандартызацыі"*, *"Аб сертыфікацыі"*, "Аб рэкламе" і, найперш, закон "Аб абароне правоў спажыўцоў", прыняты ў 1994 годзе. Дарэчы, зараз рыхтуецца новая яго рэдакцыя, якая ўжо ў маі павінна быць унесена на разгляд у Савет Міністраў і Нацыянальны сход.

Кантроль за выкананнем пералічаных нарматыўных актаў ажыццяўляюць розныя грамадскія і дзяржаўныя ўстановы — Міністэрства гандлю, Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў, Белкаапсаюз і іншыя.

Нягледзячы на тое, што спажыўцамі мы з'яўляемся ў самых розных сферах, размова на прэс-канферэнцыі галоўным чынам тычылася гандлёвых прадпрыемстваў.

Удасканаленне гандлю ў сельскай мясцовасці — прыярытэтная задача Белкаапсаюза. З 13 600 магазінаў, што ўваходзяць у сістэму аб'яднання, амаль 6 000 працуюць без выхадных, 4 300 — без абедзеннага перапынку. Ёсць і дзяжурныя магазіны з падоўжаным рэжымам працы. Каля 800 тысяч чалавек абслугоўваюцца ў спецыялізаваных магазінах "Ветэран" і "Клопат", створаных у кожным райцэнтры. Тым не менш, каля 13 тысяч населеных пунктаў не маюць стацыянарных гандлёвых кропак увогуле: 57 працэнтаў з іх абслугоўваюцца "аўталаўкамі", 37 працэнтаў — магазінамі, што знаходзяцца ў так званай мяжы "пешаходнай дасягальнасці", гэта значыць, не далей 1,5 кіламетра, 6 працэнтаў — крамамі ў хаце. Апошнім часам стаў практыкавацца і прыём папярэдніх заказаў ад насельніцтва на неабходныя тавары.

На працягу апошніх двух месяцаў Міністэрствам гандлю былі праверaны сем тысяч гандлёвых прадпрыемстваў. На трох тысячах з іх выяўлены парушэнні: у дзяржаўным гандлі гэта практычна кожны другі магазін, у сельскай мясцовасці — кожны трэці, сярод недзяржаўных магазінаў — два з трох.

Большасць нараканняў выклікаюць якасць тавараў і культура абслугоўвання. Але тут, напэўна, ужо трэба гаварыць пра культуру грамадства ў цэлым.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

ГАСЦЁЎНЯ

# ТРАДЫЦЫІ ІНБЕЛКУЛЬТА ПРАЦЯГВАЮЦЦА Ў СКАРЫНАЎСКІМ ЦЭНТРЫ

**Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны створаны ў Мінску ў 1992 годзе. Зараз ён выконвае ролю унікальнага інстытута Беларусі: тут рупліва збіраюць, сістэматызуюць і апрацоўваюць інфармацыю, так ці інакш звязаную з беларускай нацыяй. Вялікую ролю ў стварэнні Скарынаўскага цэнтра адыграў яго першы дырэктар — вядомы вучоны, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс.**

**Са снежня 1998 года гэтую навукова-даследчую і асветную ўстанову ўзначальвае кандыдат філалагічных навук Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК. Яна і распавядае пра сённяшнія поспехі, працу, клопаты Скарынаўскага цэнтра.**



*Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК.*

**— Любоў Мікалаеўна, ці згодны вы са сцвярджэннем, што пра нашу краіну да гэтага часу ў свеце ведаюць няшмат?**

— Вельмі праблемнае пытанне. З аднаго боку, пасля абвяшчэння ў 1991 годзе незалежнасці Беларусь стала больш вядомай. Але яе ўспрымаюць найбольш як палітычны суб'ект. А вось з нашай культурай сапраўды знаёмы вельмі мала. Але галоўная недарэчнасць у тым, што мы самі сябе дрэнна ведаем і цьмяна ўяўляем, якія гісторыка-культурныя традыцыі нам трэба аднаўляць, каб гэта выглядала па-сучаснаму і было запатрабавана грамадскасцю і найперш, канешне, моладдзю.

**— Як жа змяніць гэтае сумнае становішча?**

— Тут патрэбны планамерны і мэтанакіраваны падыход. Неабходна распрацаваць спецыяльную дзяржаўную праграму падтрымкі нацыянальнай культуры і абавязкова стварыць спрыяльныя ўмовы для развіцця мовы як асновы любой культуры. Займацца гэтым павінны прафесіяналы. Хаця, канешне, вялікую ролю адыгрывае і грамадская падтрымка. Толькі так можна не даць памерці беларускай мове і культуры.

**— У Скарынаўскім цэнтры ўжо сабрана вялікая колькасць найцікавейшага даследчыцкага матэрыялу. Хто мае магчымасць карыстацца гэтымі напрацоўкамі?**

— Усе, каго цікавіць самабытнасць Беларусі і яе перспектывы. У тым ліку амаль усе дзяржаўныя міністэрствы і ведамствы, замежныя пасольствы і пасольствы Рэспублікі Беларусь у іншых краінах, адукацыйныя і асветныя асяродкі ўсяго свету.

Зараз ужо шмат зроблена па стварэнні філіялаў у Гродзенскім, Магілёўскім і Віцебскім раёнах. У Гомельскім дзяржаўным універсітэце ёсць навуковая лабараторыя, якую ў нейкім сэнсе таксама можна назваць нашым філіялам.

**— Відаць, Скарынаўскі цэнтр займаецца і выдавецкай дзейнасцю!**

— Так, апрача часопіса "Кантакты і дыялогі", выдаём штогоднік "Беларусіка" і зборнік "Вяртанне", які разглядае праблему вяртання і сумеснага выкарыстання тых матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей нашай краіны, што знаходзяцца за мяжой. Імкнёмся выдаваць матэрыялы розных канферэнцый і фундаментальныя працы. Напрыклад, гатовы да выдання 35 найменняў рукапісаў. Але няма фінансавання. Таму вядзём перамовы з Міністэрствам адукацыі, каб набыць уласную міні-друкарню.

Вельмі вострай для нас з'яўляецца і праблема памяшкання. Нам няма дзе захоўваць сваю бібліятэку, а папова супрацоўнікаў нават не мае сталага працоўнага месца. І пры гэтым штогод мы праводзім каля дзесяці "круглых сталоў", кожны месяц — семінар. Людзі цягнуцца да беларушчыны, але музейная зала, дзе мы арганізоўваем пасяджэнні, разлічана толькі на 45—50 чалавек...

Дарэчы, Скарынаўскі цэнтр месціцца ў старажытным збудаванні, там у 20-х гадах пачынаў сваю дзейнасць Інбелкульт, чые духоўныя і культурныя традыцыі мы развіваем. Калісьці планавалася, што гэты будынак будзе цалкам належаць Скарынаўскаму цэнтру. На жаль, пакуль так не атрымліваецца, але мы не губляем надзеі на лепшы зыход.

**— Якія праекты запланаваны Скарынаўскім цэнтрам сёлета!**

— Зараз вядзецца 15 навуковых тэм — "Філасофія культуры", "Беларуская тэрміналогія і наменклатура", "Уплыў хрысціянства на сучаснае беларускае грамадства" і іншыя. Гэта вельмі шырокі рэестр, а ў нас толькі каля 40 супрацоўнікаў. Не застаецца па-за ўвагай і асветніцкае поле дзейнасці. Найперш распрацоўваем курсы лекцый, выступаем па радыё і тэлебачанні.

Сёлета спаўняецца 510 гадоў з дня нараджэння Францішка Скарыны, і мы аб'явілі міжнародны конкурс студэнцкіх і вучнёўскіх работ "Скарына ў маім уяўленні". Вынікі падвядзём на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў, першая сесія якога пройдзе 22—24 мая. На кангрэсе мяркуецца дыскусія па шырокаму колу праблем: "Хрысціянства і Беларусь", "Францішак Скарына і еўрапейская культура", "Беларусь і іншыя краіны" і г. д.

Падчас асенняй сесіі кангрэса плануецца работа секцый "Сінтэз усходніх і заходніх традыцый у мастацтве і літаратуры Беларусі", "Дыялог як сродак выражэння супярэчнасцей паміж нацыянальнымі, культурнымі, рэлігійнымі супольнасцямі Беларусі", "Роля беларускай дыяспары ў дыялогу цывілізацый" і гэтак далей.

Акрамя таго, мы ўдзельнічаем у пераважнай большасці рэлігійных канферэнцый, суарганізатарамі якіх з'яўляемся.

Вельмі спецыфічная і цікавая форма працы — "Скарынаўскае брацтва". Кожны апошні чацвер месяца збіраемся ў нашым музеі "Беларусы ў свеце", абмяркоўваем розныя падзеі ў беларускім і замежным культурным жыцці, што маюць дачыненне да беларусісі.

**— Лёс беларускай нацыянальнай ідэі таксама хвалюе навукоўцаў Скарынаўскага цэнтра?**

— Безумоўна, нас хвалюе лёс нацыі. Тэма беларускай нацыянальнай ідэі нярэдка ўздымаецца і ў СМІ, і ў навуковых працах, таму тут лёгка скаціцца да папулізму. Беларуская нацыянальная ідэя мае шмат аспектаў. У кожным часе асабліва актуальнай становіцца адна або дзве грані. Зараз гэта — беларуская культура і беларуская дзяржава. Без культуры дзяржава губляе ўнутраны сэнс, а дзяржаўная падтрымка вельмі патрэбная беларускай культуры. Менавіта ў культуры і выяўляецца наш уклад, які мы, як і кожная іншая нацыя, павінны прыўнесці ў скарбніцу агульначалавечых набыткаў. Для нас важна не толькі вывучаць мінулае і папулярызаваць духоўна-культурныя набыткі нашага народа, але, улічваючы беларускі досвед, ствараць беларускую перспектыву.

**Гутарыла Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

ЗДАРЭННІ

У Рагачове на чыгуначным пераездзе адбылося сутыкненне грузавога цягніка з аўтамабілем ГАЗ-53, які належаў прадпрыемству "Рагачоўнафтапрадукт".

У Рэспубліканскім цэнтры прапаганды і навучання МНС расказалі, што ад удара дэфармаваліся кабіна бензавоза і цыстэрна, у якой, як высветлілася, паліва не было. Вадзіцель машыны памёр ад траўм.

Прычынай сутыкнення паслужыла невыкананне вадзіцелем бензавоза правіл дарожнага руху на пераездзе.

У МІНСКУ — НОВЫ РЫНАК

Гандлёвыя рады новага сталічнага рынку пабудаваны на тэрыторыі міжнароднага выставачнага цэнтра "Аквабел", размешчанага на перакрыжаванні Лагойскага тракта і кальцавой дарогі. 15 красавіка рынак прыме першых пакупнікоў. Тут будзе арганізавана 250 павільёнаў. Побач з ім пабудаваны гасцініца, філіял банка, рэстаран, кафэ-бар, стаянка для аўтамашын створаць дадатковы камфорт для наведвальнікаў рынку. Дарэчы, у сувязі з рэканструкцыяй гандляроў "Камароўкі" гатовы прыняць і "Аквабел".

ІНТЭРНЭТ-ЦЭНТР



**Першы рэспубліканскі турнір па камп'ютэрнай гульні "Quake 2" адбыўся ў Інтэрнэт-цэнтры Беларускага саюза моладзі. У ім прынялі ўдзел 24 каманды з усіх абласцей Беларусі. Праект здзейснены пры падтрымцы прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН UNICEF.**

**НА ЗДЫМКАХ: каардынатары каманд-пераможцаў Сяргей БЯЛЯЕЎ (nick Atomic) і Сяргей ЯНУШЭЎСКІ (nick Ledres); каманда-пераможца з мінскага клуба "ZNICH BD".**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## З ПОШТЫ Яўгена ЛЕЦКІ

### ЛАТВІЯ

Добры дзень, паважаны Яўген Рыгоравіч!

Са шчырым прывітаннем Алесь Карповіч з Рыгі. Што хацелася сказаць. Па-першае, дзякую за цікавыя матэрыялы пра беларусаў замежжа, за матэрыялы ў розных газетах пра Анатоля Сілівончыка. За што ў Беларусі арыштавалі яго, гэта зразумелая справа, але непрыгожа адмовіліся расіяне ад Сілівончыка, напаскудзілі і зніклі, маўляў, аддувайся цяпер адзін.

Трэба неяк выратоўваць ЗБС "Бацькаўшчына". Можа звярнуцца да Радзіма Гарэцкага, каб склікаць вялікую Раду (колькі ж можна чакаць тую Г. Сурмач) ды рыхтавацца да з'езда.

А яшчэ ў мяне асабістая просьба. Вельмі хацелася б трапіць у тую вандроўку, якая будзе праходзіць праз святочна гумарыстычныя Аўсюкі і Смаленск. Калі гэта магчыма, запішыце мяне, калі ласка. У красавіку напэўна буду ў Мінску і абавязкова зайду.

З павагай

**Алесь КАРПОВІЧ.**

Рыга.

### ЗША

Хоць каратка пішу, але стараюся "адгукнуцца". Атрымаў ад цябе, дарагі Яўген, газеты і віншаванні.

Вельмі прыгожа і рамантычна ты апісаў маю любімую рэчаньку Валаўку і зашмат сказаў пра мяне. Маю надзею, што гэта не будзе выглядаць так, быццам я хвалюся сваім мінулым, а яно, сапраўды, было цікавым.

Тут нават у Норт-порце паяўляюцца новыя маладыя эмігранты, пераважна "пяцідзесятнікі". Нядаўна пасялілася маладая пара з дзвюма дзеткамі з Асіповіч. Даволі свядомыя беларусы, хоць слаба гавораць па-беларуску. Іван вельмі цікавіцца прэсай, што ты мне перасылаеш. Даю пачытаць навіны з Беларусі. Дык, Яўген, старайся перасылаць надалей цікавыя газеткі. Буду ўдзячны.

Жадаю добрага здароўя і ўсяго найлепшага. А можа сустрэнемся ў Кліўлендзе ў верасні гэтага года, дзе плануецца вялікая сустрэча беларусаў? Мне ўжо, напэўна, не прыйдзецца яшчэ раз наведаць Бацькаўшчыну, як пашчасціла ў 1999 годзе. Абдымаю.

**Язэп СЫМОНЧЫК, "дзядзька Юзік".**

Фларыда.

Паважаны спадар Лецка! Прачытаў Ваш прыгожа напісаны артыкул у "Народнай волі" "І ў Фларыдзе Наваградчына сніцца", а таксама "Дотык душы" ў "Голасе Радзімы". Мне заўсёды падабалася чытаць прыгожыя, па-майстэрску напісаныя артыкулы альбо апавяданні. Я гэтым заўсёды захапляўся, і, скажу шчыра, узнікала нават пачуццё разумнай зайздрасці. За Вашы вельмі шчодрыя словы да мяне ў "Голасе Радзімы" я Вам дзякую. Пасылаю пяць сваіх артыкулаў і верш "Горад і вёска", якія калісьці дасылаў у Вашую газету. Спадзяюся, што артыкулы дойдуць. Гэта толькі частка таго, што я пісаў у наш друк.

З пашанай

**Расціслаў ЗАВІСТОВІЧ.**

Вашынгтон.

* * *

Шчыра дзякуем Вам за дасланы ліст, калядную картку, кніжку "Беларусь" і каляндар. Залучаныя лісты да М. Каленіка, Латушкіна (ён хварэе) пераслалі на адрас Каленіка. Спадзяемся, што ён Вам напіша.

Вера і я ўжо пару гадоў, як здэактывізаваліся ў грамадска-нацыянальнай працы з прычыны недамагання, здароўе ўжо не тое. Працавалі мы дзесяткамі гадоў запар, спадзеючыся, што наш сціплы ўклад пойдзе на дабро нашага народа і Бацькаўшчыны ды пры гэтым перакане амерыканскае грамадства і нашых суседзяў: беларусы дбаюць пра сваю спадчыну і хочуць незалежнасці для сваёй краіны.

Чытаем "Голас Радзімы" і Вашыя цікавыя артыкулы.

Спадзяёмся, што новы, 2000 год будзе спагадлівым для беларускага народа і давядзе да еднасці, у якой сіла.

Вера і я жадаем Вам усяго памыснага.

З павагай

**Вітаўт РАМУК.**

Чыкага.

**P. S.** Дасылаем Вам брашуру па-ангельску аб нашай уніяцкай парафіі ў Чыкага.

### УКРАІНА

Яўген, напішыце мне падрабязней, што ж усё-такі з "Бацькаўшчынай", я, акрамя як ад Гарэцкага (вітанне), вось ужо больш года не атрымліваю аніякіх звестак. Можа ёсць што цікавае з прэсы, буду ўдзячны, калі зможаце выслаць.

Заўсёды з павагаю

**Барыс ЦІМОШЧАНКА.**

Львоў.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

*Голас Радзімы чую здалёк. "Голас Радзімы", як голуб паштовы, нясе нам у замежжа беларускае слова. Я шчыра ўдзячная гэтай пуцяводнай нітачцы, якая звязвае і яднае ўсіх нас, "пералётных" братоў і сясцёр.*

*Доўгага, плённага лёсу жадаю "Голасу Радзімы" і віншую са святам. Мой падарунак вам — вершы...*

**Іна СНАРСКАЯ.**

Украіна.

### БЕЛАРУСІ

**Вочы мае — вякі,
Я мяняла вас на шаўкі,
Я мяняла вас на рыззё,
А ў руках — адзін чарназём.**

**Каб ты срэбрам быў, чарназём,
Я б цябе захінула рыззём,
Загарнула б цябе у шаўкі, —
Толькі веру маю пакінь!**

**Я — чарніца гэтай зямлі,
Я — званіца, —
мой звон памяні,
Я — блудніца, —
даруй, не гані,
Не кідай у мяне камяні.**

### ГАРМОНІЯ НАТХНЕННЯ

**Камень, камень рэжа ценем,
Сонца, сонца сэрца возьме,
Грай, гармонія натхнення,
Грай, пакуль жывыя слёзы.
Серафіму — крылы, крылы,
Немаўляці — сонца, сонца,
Грай, гармонія натхнення,
Грай, гармонія бясконца.
За мяжой, мяжой — калыска,
У калысцы — ясны сокал,
Грай, гармонія натхнення
І сляпі пустэчы вока.
Вокны, вокны, мушлі, мушлі —
Не душы яго душа, —
Ён ляцець дадому мусіць
На пярынцы ад крыла.
А гармонія натхнення
Папалам сусвет ірве:
Вечар, вечар,
сцены, сцены,
Белы ветразь на стале!..**

### А ТАМ...

**Далей, на поўдзень, ехала,
А там... гняздо над стрэхамі, —
Ратуй, абарані.
Святло ў акне не гасіцца,
Туманам рэчка засціцца, —
Ратуй, абарані.
А колы мне: "Ты — кволая",
А там — палі ўжо голыя, —
Ратуй, абарані.
І птушкі там... у выраі,
Як я. Шапочуць крыламі
Над цягніком маім.**

## НАВІНЫ АРХІВА

# З ГІСТОРЫІ ЭМІГРАЦЫІ

### МАТЭРЫЯЛЫ ПА БЕЛАРУСАЗНАЎСТВУ Ў ФОНДЗЕ Я. ЛЯЦКАГА Ў АРХІВЕ МУЗЕЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЛІТАРАТУРЫ ЧЭХІІ

● **С. МІХАЛЬЧАНКА.** *(Бранск).*

Гісторыя эміграцыі ў апошні час выклікае непадробную цікавасць навуковай грамадскасці. Асобую ўвагу прыцягвае гісторыя пражскай галіны эміграцыі першай хвалі. Менавіта Прага ў 1920-я — 1930-я гады стала адным з асноўных цэнтраў эміграцыі. Гэтаму садзейнічалі як традыцыйныя сувязі Расіі і Чэхіі, так і падтрымка, якая аказвалася чэхаславацкім урадам эмігрантам з былой Расійскай імперыі. Адсюль — значная колькасць дакументальных помнікаў эміграцыі, сканцэнтраваных у пражскіх архівах. Частка з іх, перш за ўсё з Рускага замежнага гістарычнага архіва, была перавезена ў СССР, частка застаецца за мяжой.

Адным з самых багатых сховішчаў дакументаў рускіх, украінскіх і беларускіх эмігрантаў першай хвалі, якія пасяліліся ў Чэхаславакіі, з'яўляецца Літаратурны архіў Музея нацыянальнай літаратуры Чэхіі ў Празе (Literárni archiv Památniku Národniho Písemnictvi v Praze (LA PNP). Найбольш значны эмігранцкі фонд — фонд Я. Ляцкага (Pozustalost "Jevgenij Alexandrovič Ljackij).

Яўген Ляцкі (1868—1942) быў выдатным літаратурным крытыкам і літаратуразнаўцам — даследчыкам творчасці І. Ганчарова, М. Чарнышэўскага і іншых рускіх пісьменнікаў. У канцы XIX стагоддзя ён стаў адным з заснавальнікаў навуковага вывучэння беларускай народнай культуры.

У снежні 1917 года Ляцкі эмігрыраваў — спачатку ў Фінляндыю, потым у Швецыю. З 1922 года пражываў у Празе, дзе да 1939 года быў прафесарам кафедры рускай філалогіі Карлава універсітэта і ў сярэдзіне 20-х гадоў кіраваў дзейнасцю выдавецтва "Полымя".

Фонд Ляцкага захоўваецца ў дэпазітарыі, які аб'ядноўвае шэраг мала запатрабаваных, на думку кіраўніцтва архіва, фондаў і знаходзіцца ў замку Старэ Грады ў горадзе Лібань за 70 кіламетраў на поўнач ад Прагі.

У фондзе Ляцкага захаваліся пісьмы беларускіх літаратараў і вучоных. Тры пісьмы вядомага гісторыка і філолага В. Ластоўскага ўтрымліваюць шэраг навуковых гіпотэз, навеяных сачыненнем Ляцкага пра "Слова аб полку Ігаравым". Так, у пісьме з Каўнаса ад 26 чэрвеня 1926 года Ластоўскі выказваў меркаванне, што "бусавы час", які згадваецца ў "Слове", гэта час "паспявання ягад, набірання паўнаты і росквіту прыродных сіл".

У 1920-я гады праяўлялі ўвагу да Ляцкага і прадстаўнікі афіцыйных савецкіх устаноў Беларусі. У архіве захавалася некалькі запрашэнняў, дасланых Ляцкаму ў сярэдзіне 1920-х гадоў, на рознага роду мерапрыемствы: ушанаванне паэта і дзяржаўнага дзеяча Цішкі Гартнага, з'езд беларускіх філолагаў і іншыя. Сам Ляцкі звяртаўся да беларускіх уладаў з просьбамі аб дасылцы ў Прагу новых кніг па беларускай гісторыі і філасофіі, якія выходзілі ў Мінску. Такім чынам, перапіска Ляцкага, безумоўна, важная для аднаўлення карціны жыцця эміграцыі.

Важнай часткаю фонду з'яўляюцца так званыя "архівы". Іх адзінаццаць. Большасць гэтых груп матэрыялаў прысвечана выдавецтвам і іншым арганізацыям, з якімі супрацоўнічаў Ляцкі ў перыяд эміграцыі. Значную каштоўнасць уяўляе "архіў" "Беларусь". Асноўную яго частку (90 лістоў) складаюць рукапісы беларусазнаўчых артыкулаў Ляцкага і рэцэнзій, напісаных ім на кнігі беларускіх аўтараў. Так, тут знаходзяцца апублікаваныя ў рымскім часопісе "Rivista di letteraturt Slave" артыкулы "Якуб Колас" і "Максім Багдановіч", апублікаваныя ў пражскім часопісе "Slavia" "Нататкі па беларусазнаўству", рэцэнзіі на кнігі: М. Гарэцкі, Гісторыя беларускае літаратуры. Выд. 4. Менск, 1926, Карскі Я. Ф. Беларусы. Т. ІІІ. Вып. 2 і 3. Пг., 1921, 1922; Клейнбарт Л. М. Маладая Беларусія (Нарыс сучаснай беларускай літаратуры 1905—1928). Мінск, 1928, Вазнясенскі А. Н. Паэмы Янкі Купалы (Сюжэтная пабудова і стыль). Менск, 1927 і іншыя. Частка рэцэнзій была апублікавана ў перыядычным друку, у асноўным у часопісе "Slavia", частка засталася ў рукапісах. Тут жа захоўваюцца два пісьмы Цішкі Гартнага (Жылуновіча) з удзячнасцю за дасланыя кнігі. Важнай часткаю "архіва" з'яўляецца неапублікаваны, хоць і прыгатаваны для "Slavonic review" артыкул на рускай мове пра культурнае адраджэнне Беларусі.

Такім чынам, дакументы з фонду Ляцкага — вялікая каштоўнасць як крыніца па гісторыі эміграцыі. Іх вывучэнне — адна з задач гістарыяграфіі і літаратуразнаўства.

## АСОБА

# УРОКІ



*Сяргей КАТКОЎ (другі справа) з сям'ёй.*

Адной з галоўных падзей майго жыцця было знаёмства з вядомым мастаком Сяргеем Катковым. Лёс паклапаціўся, каб менавіта ён вызначыў накірунак майго жыцця. А было гэта так. Летам 1969 года ў нашай палескай вёсцы здымалі фільм. Групу кіношнікаў рассялілі па кватэрах. У нас жыў рэжысёр У. Рымараў і аператар Д. Зайцаў. Дзмітрый Зайцаў бачыў, што я малюю, пішу акварэлі, а даведаўшыся, што пасля школы хачу паехаць у Мінск паступаць вучыцца "на мастака", параіў сур'ёзна падрыхтавацца. "Вось ёсць Каткоў. У мастацкай студыі Палаца піянераў і школьнікаў выкладае. Ён педагог ад Бога. І, калі ты надзелены талентам, пазаймаешся — паступіш".

Прыехаўшы ў Мінск, даведаўся, што Сяргей Пятровіч ужо не вядзе заняткі, ён на пенсіі. Шукаю праз даведку адрас і іду да яго дамоў. У мяне была папачка з малюнкамі і акварэлямі. Усе работы здаваліся мне вяршыняй дасканаласці.

Першае ўражанне ад Каткова: невысокага росту, круглатвары з праніклівымі вачамі. Усё ў ім выклікала прыхільнасць, асабліва добразычлівыя адносіны да суразмоўцы. Я свае работы расклаў на падлозе. І раптам сэрца аблілося крывёю: мастак пачаў нагой у хатнім тапку адхільваць іх, робячы пры гэтым розныя заўвагі. Я быў адолены. Можна было збіраць работы і вяртацца дадому. Але ўсё ж Каткоў сказаў, што ў творах ёсць прачуленасць, прыкмечана тонкасць у стане прыроды, улоўліваецца характар. Але трэба шмат працаваць. Неабходны калектыў, каб была магчымасць убачыць, як працуюць іншыя, і параўноўваць сябе з імі. Акрамя гэтага, магу прыходзіць да мастака дамоў і займацца...

Уладкаваўшыся на працу, пасяліўся я на кватэры недалёка ад дома мастака, каб па некалькі гадзін маляваць. Часам заставаўся начаваць. Хутка дом Катковых стаў для мяне родным. Прыходзіў да яго з малюнкамі, а Сяргей Пятровіч і гаварыць не хацеў пра справы, пакуль не пакорміць мяне, і толькі потым пачынаў ацэньваць зробленае.

У майстэрні мастака я часта разглядаў работы яго дачкі Святланы і яе сяброўкі Зоі Літвінавай (цяпер вядомых мастачак). А яшчэ ў Каткова захоўвалася мноства твораў яго вучняў. Часам ён паказваў гэтыя работы. Распавядаў пра будучы музей дзіцячай творчасці.

Многіх, вельмі многіх навучаў Каткоў. Ён адчуваў, улоўліваў, разумеў, бачыў, хто можа стаць мастаком. Дапамагаў усім як мог. А гэта былі не толькі заняткі ў мастацкай студыі. Самае галоўнае — наведванне выстаў прафесійных мастакоў, абмеркаванне іх работ, паездкі на пленэр... Не кожны можа быць арганізатарам, а Каткоў, акрамя арганізацыйных спраў, сам працаваў з вучнямі на пленэры. І гэтак штогод! Часта пры сустрэчах Каткоў гаварыў: "Гэта мае вучні". Але мяне ён так нікому не прадстаўляў. Зараз думаю, што ў гэтым быў свой сэнс. Аднойчы сабраліся ў майстэрні па вуліцы Першамайскай адзначыць мае провады на службу ў армію, тады мастак упершыню прадставіў мяне як свайго вучня. Я быў на нябёсах. За час службы атрымаў некалькі лістоў ад Сяргея Пятровіча. Натуральна, мэта была адна: падвесці мяне да паступлення ў інстытут. Лісты былі стрыманымі, лаканічнымі.



# ДВА МАЛАДЫХ МАЭСТРЫ

## ПРЫПАВЕСЬЦЬ

Марк і Сяржук былі сябрамі зь дзяцінства, якое хутка мінулася ў бедным сельскім паселішчы. Абодва хлопцы шчыра імкнуліся да навукі і мастацтва і, як скончылі школу, паехалі ў вялікі горад, дзе паступілі вучыцца ў мастацкі каледж. Вучыцца было трудна, бацькоўскіх сродкаў не хапала, ды памаглі добрыя людзі. Праз колькі гадоў хлопцы скончылі навучаньне і сталі вядомымі ў горадзе маладымі маэстра. Сяржук маляваў карціны, а Марк вырабляў скульптуры. Іхнія атэлье былі на адной, абсаджанай платанамі вуліцы, і сябры часта наведвалі адзін аднаго. Погляды на мастацтва ў іх увогуле былі падобныя, хоць часам і здараліся спрэчкі. Але спрэчкі ніколі не канчаліся варажнечай, бо спрачальшчыкі ня мелі злосьці.

Але во неяк вясной у краіне стаўся пераварот, да ўлады ў вялікім палацы прыйшоў дыктатар. Як і належыць дактатару, ён паабяцаў народу хлеб і парадак, але найперш пачаў мацаваць уладу, бо, мабыць, толькі гэта і ўмеў. Для таго забараніў палітычныя партыі, ва ўсіх галінах працоўнай ды інтэлектуальнай дзейнасці ўвеў рэглямантацыі. Рэглямантацыі тыя сягалі аж да выяўленчага мастацтва, дзе забаранялася эротыка і заахвочваўся абстракцыянізм. Абстракцыянізм увогуле быў незразумелы малаадукаванаму народу, таму дыктатар і даваў яму пэўную паслабку. Эротыка ж была ўсім зразумелая, і дыктатар баўся, каб ворагі дыктатуры ня выкарысталі яе дзеля падрыву ягонай улады. Падобна ў тым ён меў рацыю.

Сяржук даволі лёгка прымірыўся з рэглямантацыяй і пачаў пісаць пейзажы, якія не забараняліся. Зноў жа да пейзажаў і прыроды ён меў даўнія схільнасці і пачуваўся ў іх даволі спрактыкавана. Таму праз новы ўказ дыктатара ён не шмат страчваў. З пейзажаў меў пэўны набытак, ажаніўся з прыгожай маладой паненкай і ўвогуле быў жыцьцём задаволены. Марк жа пачаў нервавацца. Рэч у тым, што скульптура, згубіўшы эратычны элемент, страчвала больш за палову. Усе жаночыя і мужчынскія постаці павінны былі выглядаць дбайна апранутымі, зашпіленымі на ўсе гузікі, — так патрабаваў закон. Голае цела нідзе не дапушчалася. З музэяў і афіцыйных установаў павывозілі кудысь усе антычныя скульптуры. У школьных падручніках выявы старажытных багоў і багінь пазалеплівалі паперкамі, каб нічога не было відаць. Марк мусіў падпарадкавацца, хоць у душы і затаіў нязгоду. Тая нязгода часам прарывалася ў размовах з сябрамі, а таксама на рэдкіх сходах і мітынгах, якія напачатку яшчэ не былі забароненыя дыктатарам.

Але неўзабаве забаранілі і сходы. Аднойчы пасьля бурнай спрэчкі ў тракціры Марка ненадоўга арыштавалі, а ў ягоным атэлье зрабілі ператрус. Усе яго аголеныя і напалову апранутыя скульптуры былі зьнішчаныя. На скульптара завялі крымінальную справу, яго ўзялі пад паліцэйскі нагляд, пад выглядам сяброў пачалі падсылаць шпігуноў. Урадавая газэта выдрукавала артыкул, дзе выкрываліся шкодныя канцэпцыі скульптара.

У такую пару неяк увечары да яго завітаў сябра Сяржук. Яны трохі выпілі і загаварылі пра свае справы, якія ў Сержука былі так сабе, а ў Марка зусім кепскія. Сяржук увогуле спачуваў сябру і сказаў, бы ў суцяшэньне, што хоць сам ён працуе і жыве няблага, але, па вялікім рахунку, незадаволены і лічыць, што мастацтва — на баку беднасьці. Сытасьць супрацьпаказана мастацтву. Марк на тое змоўчаў, а прапанаваных сябрам грошай ня ўзяў. Невядома, што было прычынай таго, але адносіны між сябрамі сталі хутка бурыцца. Сяржук лічыў, што ягоны сябра стаў надта неталерантны, а Марк меркаваў, што Сяржук прадаўся дыктатуры. Хаця, па праўдзе, нікому ён не прадаваўся, толькі прадаваў свае пейзажы — кожнаму, хто іх купляў. Вядома, жыў ён куды лепш за свайго нядаўняга сябра, які ўжо колькі год сядзеў бяз працы ў сваёй каморцы на гарадзкой ускраіне. З атэлье давялося расстацца: плаціць за яго не было чым.

Так доўжылася гадоў пяць ці, можа, болей. І дыктатар, усё дасканалячы сваю дыктатуру, выдаў новы ўказ. Цяпер ужо абмяжоўваўся рэалізм, у тым ліку і пейзажны жывапіс. Жывапіс дазваляўся аднаго толькі жанру — афіцыйнага. Ён павінны быў адлюстроўваць тытанічную працу дыктатара ў клопатах пра дабрабыт і бясьпеку народу. Ранейшая забарона эротыкі была прызнаная памылковай. Было растлумачана, што і эротыка можа служыць народу. Асабліва, калі на палітычным краявідзе зноў замаячыла вайна і войску спатрэбіліся салдаты. Шмат салдатаў.

Сяржук, канешне, апанурыўся, бо, атрымаўшы прызнаньне ў пейзажы, мала што разумеў у іншых жынрах. Марк ня ведаў, як паставіцца да тых зьменаў палітыкі і моўчкі разважаў, гібеючы ў сваёй нэндзе. Але во аднойчы яго паклікалі ў вялікі белы палац і прапанавалі незвычайную працу. Належала зрабіць вялікую скульптурную групу — дыктатар у атачэньні вакханак. Вакханкі, як і ў грэкаў, павінны былі мець голыя станікі. Гэта была даніна вялікаму мастацтву антычнасьці, якім на старасьці захапіўся дыктатар.

Марк спахмурнеў і некалькі дзён думаў. Вярнуцца да любай яму аголенай скульптуры ён дужа хацеў, але ж... Але ж там мусіў быць і ненавісны яму дыктатар ды яшчэ з двума тузінамі мудрагелістых узнагародаў, якіх скульптар болей за ўсё не хацеў вырабляць. Колькі дзён Марк думаў, трываючы хатнюю згрызоту ад жонкі ды цешчы, якім, вядома ж, дужа надакучыла шматгадовая галеча. І ён пагадзіўся. Яму далі цудоўную майстэрню, матэрыял — мармур ды бронзу, нават памочнікаў і грошы. І ён са згаладнелай прагнасьцю ўлёг у нялюбую, але патрэбную працу.

Аднойчы пазнаватым зімовым вечарам у дзьверы шыкоўнага атэлье пастукалі, памочнік пайшоў пацікавіцца — хто? На парозе стаяў бедна апрануты, схуднелы чалавек нападпітку, у якім не адразу можна было прызнаць колішняга славутага пейзажыста. Ён прыйшоў да былога сябра, і яны паразмаўлялі да ночы. Цяпер Сяржук не казаў, што мастацтва сябруе з баднасьцю — наадварот, ён пераканаўся, што і мастаку трэба грошы. Марк казаў, што гледзячы якому мастаку і якія грошы. Ягоныя грошы паскудныя, але што зробіш?.. Тады Сяржук пачаў вінаваціць сябра, што той здрадзіў мастацтву, а той казаў, што гэта ад зайздрасьці. Калі б абодва зьбяднелі, во тады б і сталі сапраўднымі мастакамі, служылі б не пану, а сьвятому мастацтву. На тым быццам бы памірыліся, і пейзажыст пайшоў. А Марк, не зважаючы на дэкляраваныя прынцыпы, натхнёна працаваў і багацеў. Праз пэўны час набыў за горадам прыгожую вілу, купіў "Мерседэс". Жонка стала аўтарытэтным мастацтвазнаўцам. Сыноў, праўда, яны ўладкавалі ў вайсковыя акадэміі.

Мінула яшчэ колькі год, памёр дыктатар, на ягонае мейсца ў палацы прыйшоў чарговы. Гэты меў іншыя канцэпцыі палітыкі, эканомікі, вайсковай стратэгіі і, вядома ж, мастацтва таксама. Ён адразу абвясьціў, што час зьмяніўся, мастацтва сваё аджыло і непатрэбна нікому. Апроч музыкі і сьпеваў. Скульптуру і розныя карціны ён загадаў выгрузіць з палаца і зьнішчыць. Замест — усюды паставіць піраміды са зброяй, а мастакоў перакваліфікаваць у дызайнеры. Зброя павінна быць эфектыўнай, зручнай і эстэтычнай. Жывапісцам ды скульптарам рабіць не было чаго. І яны натоўпамі пабрылі па сьвеце ў пошуках працы і прытулку.

...Аднойчы ў далёкім замарскім горадзе за столікам партовага кабачка сышліся два чалавекі. Не адразу яны пазналі адзін аднаго: так пакамячыла іх нялёгкае, відаць, іх жыцьцё. Абодва былі ў зашмальцаванай, не новай апратцы, няголеныя, без капелюшоў, у растаптаных гамашах на босых нагах. Вытрасшы медзякі з кішанёў, узялі па куфлю піва, з прагнасьцю выпілі і паўзіраліся адзін у аднаго. Тады адзін раптам сказаў:

— Ну во мы і абодва ў беднасьці. А дзе наша мастацтва?

Другі, не адказаўшы, горка заплакаў...

**Васіль БЫКАЎ**

*Германія.*

# Сяргея КАТКОВА

...Дакладна не памятаю, быў гэта першы ці другі інфаркт у Каткова, але, атрымаўшы кароткатэрміновы водпуск з арміі, еду ў Мінск. Ён ляжыць у першай бальніцы. Іду да яго. Палата, халат, бальнічныя тапкі, схудалы мастак. Смеючыся, паказаў на сценгазету, якую намаляваў да 8 Сакавіка. Але больш за ўсё мяне ўразіла колькасць малюнкаў, якія былі зроблены за час хваробы. Алоўкам і шарыкавай ручкай. Іх былі сотні. Каткоў не мог паднімацца і маляваў тое, што побач. Свае ногі, якія тырчалі з-пад коўдры, кропельніцу, руку, складкі коўдры, прынесеныя яму кветкі, розныя медыцынскія слоікі, тумбачку...

У 1972-м еду з Сяргеем Пятровічам на пленэр. Сама падрыхтоўка прайшла вельмі хутка. Дапамагаў нацягваць палатно, грунтаваць. Для Каткова было характэрна мець шмат палотнаў рознага фармату. Едзем на аўтобусе ад Саюза мастакоў на месца, дзе рака Бобр упадае ў Бярэзіну. З намі мастакі А. Бархаткоў і І. Карасёў. Мы жылі з Сяргеем Пятровічам у палатцы, на высокім беразе ракі Бобр. Нацюрморты з палявых кветак, ранішнія туманы, буслы ў небе. Усё было захапляюча, нова. Цікавы падыход быў у мастака да работы. Ён браў вялікі падрамнік, ішоў да вызначанага месца і ствараў на палатне кампазіцыю, выбіраючы з таго, што знаходзілася побач. Палатно звычайна ўладкоўваў на які-небудзь корч, а маленькі эцюднік запаўняў фарбамі. Ля палаткі малюнак абводзіў тэмперай. І так рабілася некалькі вялікіх палотнаў з рознымі кампазіцыямі. Калі быў пэўны каляровы стан прыроды, Каткоў бег на месца, рабіў падмалёвак.

Мне Сяргей Пятровіч раіў пісаць работы вялікіх памераў. Гэта прымушае і вучыць арганізоўваць усё палатно. Малую работу лёгка ўбачыць усю цалкам, а каб напісаць вялікую кампазіцыю, патрэбны пэўны навык.

Цікавы ўрок аднойчы даў Каткоў. Я пачаў угаворваць мастака адпусціць мяне аднаго з начоўкай на далёкім абрывістым беразе Бярэзіны, які быў бачны на гарызонце. Спачатку ён мяне адгаворваў, але я настойваў, і Сяргей Пятровіч раптам згадзіўся. Але сказаў: "Уяві сабе, як далёка мы забраліся, што месца, дзе знаходзімся, мае выгляд, пэўна, такі ж". Довад быў пераканаўчы. Свой паход да гарызонта прыйшлося адмяніць.

Неяк да нас у госці прыехалі мастакі А. Гугель і Р. Кудрэвіч. Гулялі ля Бярэзіны, у гаі зрабілі пікнік. Шукалі грыбы, ніводнага не знайшлі. Калі селі, нехта ўбачыў белы грыб. Іх побач з намі аказалася некалькі дзесяткаў. Ляжым на траве, глядзім у неба. Плывуць аблокі, лісце шапоча ад ветру на фоне неба. Сяргей Пятровіч гаворыць, што ніводны мастак яшчэ не напісаў такі сюжэт, а ў кінематографе ёсць. Каткоў расказваў пра Паустоўскага, Біянкі, Прышвіна, пра многіх іншых пісьменнікаў. Прыводзіў прыклад з сучасных мастакоў Мітрохіна і Нікіча, якія стваралі дзіўны свет са звычайных прадметаў, якія мы практычна не заўважаем. Расказваў пра маскоўскага мастака, які шмат гадоў пісаў бульбу!

Ужо працуючы ў Кішынёве, у размове з мастаком В. Слабадзінскім, я сказаў, што быў знаёмы з Катковым. Аказваецца, яны разам былі ў творчай групе ў Паланзе. І на мяне аўтаматычна перайшла тая павага, якую адчувалі да Каткова. Гэта цешыла самалюбства і прымушала працаваць.

У канцы 1975-га Сяргей Пятровіч знаёміць мяне з суседам па майстэрні В. Цвіркам. Каткоў высока ацэньваў творчасць Цвіркі. Тады прызнаўся нам, што яму магчыма нядоўга засталося жыць. Усё так і адбылося.

17 лютага рэдка бываю ў Мінску, але ведаю: на Паўночных могілках ёсць нечыя адзінокія сляды. Прыцемак, гарыць свечка, ляжаць кветкі. У доме Катковых у гэты дзень заўсёды накрыты стол, чакаюць гасцей, памінаюць.

...Перачытаў свае ўспаміны пра С. Каткова, і з'явілася пачуццё, што яны магчыма больш пра мяне самога. Але мяне заўсёды цікавілі тыя падзеі, якія пераходзяць ад чалавека да чалавека. Як проста з чалавека, які жадае маляваць, атрымліваецца мастак. Рэдка да гэтага нехта прыходзіць сам. Заўсёды ёсць педагог. Цудоўна, калі гэта добры чалавек і мастак. А час паказаў, што Сяргей Пятровіч Каткоў менавіта такі.

**Вячаслаў ІГНАЦЕНКА, мастак.**

МАЛДОВА.

## МАСТАЦТВА БЕЗ МЕЖАЎ







У сталічным магазіне "Акадэмкніга" адбылася прэзентацыя кнігі ўспамінаў Уладзіміра Шаліхіна "Сэрца памятае...", прысвечанай дзеячам культуры і мастацтва з сусветнымі іменамі, якія ў розныя гады выступалі з канцэртамі ў Мінску. Аўтар доўгі час працаваў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі і вёў гэтыя канцэрты. Кніга багата ілюстравана.

НА ЗДЫМКУ: Уладзімір ШАЛІХІН дае аўтограф Юліі ПІНЧУК.

**БелТА.**

БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ

# «УСІМ, ХТО Ў КРАЙ СВОЙ ЗАКАХАНЫ»

Яўген Казюля — значная асоба ў беларускай фотажурналістыцы. Сталася так, што менавіта наша газета была першай, дзе Яўген Казюля пачаў працаваць як прафесійны фотакарэспандэнт: "Да маёй працы ставіліся з асобай пашанай. Пазней нідзе не сустракаў такіх уважлівых адносін да фатаграфіі. У "Голасе Радзімы" лічылася, што фота стварае вобраз газеты, гэта вымагала высокай якасці. Ішоў пошук ідэй, тэм. У мяне самыя добрыя ўспаміны пра тыя часы".

Яўген Казюля аддае перавагу фотапартрэту. "Я не люблю выраз "простыя людзі", але мне сапраўды падабаецца здымаць такіх людзей. Ад іх часам атрымліваеш больш цяпла, чым ад знакамітых", — кажа фотажурналіст.

Закаханым у свой край людзям прысвечана выстава фотаработ Яўгена Казюлі "Нёманскі шлях", якая прайшла ў Музеі гісторыі і культуры Беларусі.

Яўген Казюля падарожнічаў уздоўж Нёмана ад яго вытокаў да мяжы з Літвой на веласіпедзе, які разам з сумкай фотакора стаіць тут жа, у зале музея. Панямонне — найпрыгажэйшы куток Беларусі. Майстар зачароўвае гледача здымкамі лясоў, неба. Панямонне — край, дзе "лунае дух Міндоўга і Вітаўта Вялікага".

На партрэтах, зробленых майстрам, уражваюць твары старых. Здаецца, аўтар вывучае сталасць як з'яву. Падвядзенне вынікаў, кульмінацыя жыцця з яго мудрасцю і горам? Здаецца, тыя, каго здымаў Я. Казюля, так занятыя працай, што не маюць часу думаць пра сябе і лёс. Але твары іх свецяцца дабрынёй. Уся вандроўка была здзейснена, каб "зазірнуць у вочы працавітым і добрым людзям" і каб "разам адчуць горыч і сорам за тое, што не захоўваем належным чынам нашу гісторыю і культурную спадчыну". А любіць ёсць што. Пейзажы Я. Казюлі — шчымлівыя і прыгожыя. Яны плён патрыятызму і мастацкага мыслення. Застаецца дадаць: летась Міністэрства культуры адзначыла творчасць Яўгена Казюлі, прызначыўшы яму Дзяржаўную стыпендыю.


*Яўген КАЗЮЛЯ падчас вандроўкі.*

**Алена СПАСЮК.**


*Леснічоўка ў Графскай пушчы (Карэліцкі раён).*


*Вера КАЗЛОЎСКАЯ з вёскі Лапкі (Стаўбцоўскі раён).*


*Старажытны Гродна.*


*У вёсцы Навасёлкі Мастоўскага раёна.*


*На прынёманскіх лугах.*

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# БУЛЬБАЧКА

Гэта было вельмі даўно.

У адной вёсцы жылі маладыя муж і жонка. Іх звалі Буль і Бачка. Жылі яны бедна, і к вясне ўжо не было чаго есці. Летам яны хадзілі ў лес па ягады, а восенню — па грыбы.

Аднойчы, вяртаючыся з лесу, Буль і Бачка ўбачылі, што ў буру ветрам скінула на зямлю гняздо буслоў з маленькімі птушаняткамі. Бачка сабрала птушанят у падол сукенкі і прынесла дадому. Буль змайстраваў крыжавіну і прымацаваў яе на дрэве. Буслы пачалі на крыжавіне будаваць новае гняздо. Калі яно было гатова, Буль паклаў туды маленькіх птушанят. Увосень маладыя птушкі разам з іншымі паляцелі ў вырай.

Вясной да дома Буля і Бачкі прыляцела многа буслоў. Кожны з іх у дзюбе трымаў круглыя камячкі. Буслы дзюбамі раскапалі ямачкі, паклалі туды камячкі, лапкамі загарнулі зямлёй і разляцеліся ў розныя бакі па сваіх гнёздах.

Неўзабаве на гэтым месцы з'явіліся расточкі. Яны хутка-хутка раслі і нават зацвілі. Людзі ў гэтым краі ніколі не бачылі такой расліны і не ведалі, што з ёю рабіць. Увосень на раслінах пажухла лісце. Буль развёў вогнішча і хацеў спаліць гэтыя кусцікі. Калі ён пацягнуў за кусцік, то ён падаўся з зямлі разам з каранямі, на якіх былі вялікія камякі. Разгубленыя стаялі Буль і Бачка, не ведаючы, што рабіць. Тады буслы зляцелі з дрэва, узялі ў дзюбы па камяку і паляцелі да вогнішча. Яны кінулі ў агонь гэтыя камякі. Калі агонь патух, Буль выкапаў іх з попелу і паспрабаваў есці. Яны былі вельмі смачныя.

Усе вяскоўцы сабраліся на сход і сталі прасіць камячкоў, каб пасадзіць іх каля сваіх хат. Усіх патрошку надзялілі Буль і Бачка. Калі людзі ішлі дадому, то гаварылі:

— Мне камячкі даў Буль.

— А мне Бачка.

— А як жа мы назавём гэтую расліну?

— Я прапаную назваць Бульбачка. У гонар Буля і Бачкі.

Гэта прапанова ўсім спадабалася.

Доўгімі зімнімі вечарамі людзі хадзілі ў сяло да каго-небудзь. Аднойчы вечарам суседзі наведаліся да Буля і Бачкі. Буль у гэты час майстраваў дзіцячую калыску, а Бачка вязала маленькія панчошкі.

— Мабыць, сыночка чакаеце? — запыталася суседка.

— А чаму б і не, — задаволена сказаў Буль. — Хлеба і бульбачкі ў нас дастаткова. Можна і памочніка ў гаспадарцы гадаваць.

— І як скора? — зацікавілася другая суседка.

— Спадзяёмся, што буслы прынясуць. Яны абяцалі, — усміхаючыся, адказала Бачка.

***Печаная ў вогнішчы бульба, безумоўна, смачная, але, калі вы жадаеце зрабіць нешта незвычайнае, калі ласка, рэцэпт.***

***Бульбіны вымыць, выцерці і з лупінаю кожную загарнуць у фольгу і выпякаць у духоўцы 35—40 хвілін. Адна тонкасць: на бляху трэба абавязкова насыпаць слой буйной солі — фольга не пацямнее і бульба лепш прапячэцца. Потым бульбіны трэба зверху надрэзаць прыблізна на адну трэць, там, дзе цэлая фольга, націснуць пальцамі на канцы — бульба як бы раскрыецца — і выняць сярэдзіну лыжачкай. Зрабіць пюрэ, дабавіць яечны жаўток, сметанковае масла. Гэтай масай нафаршыраваць бульбіны, карыстаючыся кандытарскім шпрыцам або трубачкай з пергаменту. Зверху пасыпаць сырам. Перш чым падаваць да стала, паставіць яшчэ на 5 хвілін у духоўку.***

**Марына КУЦЫНА,**
**4 "А" клас, школа № 3**
**Даўгаўпілса, навучэнка**
**беларускай нядзельнай школы.**

## КРЫЖАСЛОЎ

ПЕРАКЛАДЗІЦЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 5. Пример. 6. Часовой. 10. Ремень. 11. Отжиг. 12. Учитель. 15. Голь, голытьба. 18. Трепалка. 19. Повойник. 20. Возчик. 21. Здание. 25. Верстак. 26. Колодец. 27. Падающая звезда. 31. Выручка, спасение. 33. Вред. 34. Кружка. 35. Трапичник. 36. Счет.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Льдина. 2. Котомка. 3. Валёк. 4. Склока, ссора. 7. Плаун. 8. Привратник. 9. Пакля. 13. Отношение (к чему-нибудь). 14. Бред. 16. Ромашка. 17. Сверток. 22. Хрестоматия. 23. Перекладина, жердочка. 24. Угол. 28. Верх печи, лежанка. 29. Полевая жаба. 30. Призрак. 32. Сахар.

**Склала Святлана ЧЫГІЛЕЙЧЫК.**

«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.** Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 903.
Падпісана да друку 3.04.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).